# РЭДЗІМОВА

ВЫДАВЕЦКАЙ СУПОЛКІ ІМЯ М. БАГДАНОВІЧА

ГАРОДНЯ • 1990 • № 5 (11) •



Сыпце, сыпце соль на раны —
І тады гарчэй ня будзе.
Мой народ ускрыжаваны,
Сьпіць і боўтаецца ў брудзе.
Засьляпіцца ганак шэры —
Я выношу ў сьвет няўклюдны
З бруднай цеснае кватэры
У галоўцы думкі брудны.

Брудных душаў не адмые
Ні сьвянцоная вадзіца,
Ні малітва ля бажніцы.
Мы бяз мовы, мы нямыя.

У начальнікаў азадкі...
Іх партрэты ў цяжкіх рамах.
А народу — анігадкі,
Сноўдае па брудных крамах.

У родным краі — бы зладзеі.
Ад Радзімы адрачэньне.
Ні прасьветы, ні надзеі
На сьвятое адраджэньне.

Гародня 3.06.1990.

# СЯРЖУК СОКАЛАЎ-ВОЮШ: ПРАМОВА НА Х ЗЬЕЗЬДЗЕ СПБ

Аб выступленьнях на Х зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі дэлегатаў, якія актыўна дзейнічаюць у Народным Фронце "Адраджэньне", газета "Літаратура і Мастацтва" за 18 мая паведаміла наступнае:"На зьезьдзе з удакладненьнямі, рэплікамі, прапановамі выступілі Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Емельянаў,..Юрась Пацюпа...

## СПАДАРЫ !

Сёньня на пляцы Волі БНФ "Адраджэньне" праводзіць мітынг памяці Чарнобыльскае катастрофы, мы запрашаем таксама і наш зьезд на мітынг...Прапаную зьняць з загалоўка газэты "Літаратура і Мастацтва" лозунг "Пралетарыі Усіх краін,яднайцеся"...

Шаноўныя сябры! Я зьвяртаюся да Вас з высокай трыбуны гэтага зьезду як да людзей, якія павінны зьяўляцца душой народа і сумленьнем нацыі. Але далёкі ад думкі знайсьці ў зале аднадушную падтрымку таго, аб чым буду казаць. Але часы аднадушных падтрымак прайшлі. А мой час заклікае ня толькі да плюралізму, час заклікае да рашучых дзеяньняў, і пачынаць дзейнічаць трэба неадкладна. Ужо кніжкі нашы чытаюцца. Цікавасьць да беларускага слова расьце, а людзі перастаюць ведаць толькі адных Купалу ды Коласа.

Гэта гаворыць за тое,што да нас пачынаюць прыслухоўвацца і за намі могуць пайсьці, калі мы будзем варты таго, каб за намі пайшлі. Той, хто вягнецца ў хвасьце, не вядзе нікога. Вядзе той, хто наперадзе. І крый Божа, як наперадзе апынецца чарговы Іван Сусанін, які ўжо завёў аднойчы нашых продкаў у непраходныя маскоўскія балоты. Гісторыя сьведчыць: ва ўсе часы наперадзе былі пісьменьнікі. І першымі клалі на плаху галовы за свой падняволены народ, даючы магчымасьць тым, хто за сьпіной, ісьці далей. Такімі былі паэт і публіцыст Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Алесь Гарун і многія з тых, хто загінуў у часы Сталіншчыны. Такім быў Уладзімір Караткевіч, такімі ёсьць Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і іншыя, хто не забаўся на вядомую ісьціну, што паэтам можаш ты ня быць, а грамадзянінам быць абавязаны.

Ва ўсе часы ўсе вялікія імпэрыі позна ці рана цярпелі крах. Сёньня на парозе такога краха стаіць імпэрыя рабочай камуніі. Давайце ня будзем цешыць сябе ілюзіямі, што ўсё абыдзецца, і птушка шчасьця заўтрашняга дня ўжо заўтра сядзе на абсягі нашай спляжанай Бацькаўшчыны. І ня будзем заўчасна цешыцца таму,

што прыняты закон пра мову, і спадзявацца на тое, што яго выконваць за нас будзе добры дзядзька. Адказнасьць за лёс мовы і культуры ляжыць па-ранейшаму на нашых з вамі плячох. Але дзеля таго, каб прымусіць нас не займацца гэтымі пытаньнямі, каб выбіць нас з палітычнага жыцьця рэспублікі, у нас прымаецца закон пра падаткі. Маўляў, пахвалюйся лепш, пісьменьнік, пра гэты закон, а не пра палітыку, ды падумай пра кавалак хлеба...

У гэтых варунках я заклікаю вас зрабіць першыя крок да незалежнасьці Бацькаўшчыны ды павесьці за сабой народ. Размаўляючы з вамі, я зразумеў, што ў нашым СП ёсьць немалая сіла, якая згодна заваліць цалкам ідэю незалежнасьці Беларусі, я маю на ўвазе выхад з СП СССР, бо гэта зьвязана са стратай прывілей. Калі сёньня мы не гатовыя тужэй зацягнуць свой пас, то я прапаную хоць бы ўзяць курс на незалежнасьць.

У якасьці першых крокаў у гэтым кірунку стварыць уласны літфонд і дамагчыся передачы нам прынамсі аднаго з выдавецтваў... Неаднаразова даводзілася чуць, што ў гэтай справе трэба напачатку ўсё палічыць і ўзважыць. Але ж дзе можна знайсьці вагі, на шалі якіх лягуць з аднаго боку воля і незалежнасьць Радзімы, а з другога - выгода ды халодны разьлік? Выдавецтва павінна належаць тым, хто забясьпечвае рукапісамі, дае яму жыцьцё. Пакольki на сёньняшні дзень паважаны Друнон, які прынёс нашаму выдавецтву немалыя прыбыткі, не прэтэндуе сам на гэтае выдавецтва, справа пераходзіць у нашыя рукі. Няхай наш урад вырашыць гэтую справу палюдзку. У адваротным выпадку заклікаю вас правесьці забастоўку, забраць свае рукапісы з выдавецтва. Тым больш, што пры новай падаткавай сістэме гэта ня здолее нанесьці адчувальнага ўдару па нашых кішэнях...
...У мяне самога ў выдавецтве ляжыць тры зборнікі...

Прапаную ўвесьці больш жорсткія ўмовы прыёму ў СП, каб ён ня стаў малодшым братам нашага ленінскага камсамолу, які бясплодная масавасьць загнала ў тупік...

Я настойваю на актывізацыі грамадзянскае пазіцыі кожнага пісьменьніка... Між тым тэлеграма пра Чарнобыль была дэманстрацыяй нашай пазіцыі, але яна нічога вырашыць не магла.
І наш і маскоўскі ўрад не надта рэагуюць на заклікі інтэлігенцыі. Між тым пры рэдагаваньні тэксту Гігевіч і Петрашкевіч дзейнічалі па прынцыпу сытых ваўкоў і цэлых авечак. Яны вельмі тонка адчуваюць планку дазволенасьці... Яны абмежаваліся патрабаваньнем перагляду ўжо існуючых крымінальных спраў па чарнобылю, добра ведаючы, што ніводзін кіраўнік рэспублікі па гэтых справах не праходзіў...А патрабаваньні прыцягнуць да адказнасьці урад гучаць на ўсіх мітынгах...



У шмат якіх выступах мяне зьдзівіла , як пісьменьнікі ўжываюць словы папрасіць, зьвярнуцца замест таго, каб ужываць такія словы як зрабіць, узяць у свае рукі. Хто з нас можа ўявіць сабе Кастуся Каліноўскага з прашэньнем ці зваротам у руках у прыёмнай Мураўёва-вешальніка! Хто можа сказаць, колькі б мы чакалі першай беларускай кніжкі, калі б Скарына абіваў парогі прыёмных па пытаньнях некамплектнасьці свайго друкарскага станка. Нашы папярэднікі не прасілі, а дзейнічалі. Да гэтага я заклікаю вас...

Крыху пра мову. Крылатая фраза Мікалая Іванавіча Дземянцея "Хто на каком языке хаціт, тот на таком і разгаварывает" аблящела ўсю Беларусь. Яна абудзіла народны гумар. На пытаньне, як называецца чалавек, які ведае шмат моў, людзі адказваюць - "паліглот", а на пытаньне, як называецца чалавек, які ня ведае ніводнае мовы, людзі адказваюць "Дземянцей"...

Але ў тым, што нашыя урадоўцы ня ведаюць ніводнае мовы, ёсьць доля нашае віны. Зазірніце ў прапісі для першае клясы беларускіх школ, і вы прачытаеце "Бора і Вара рысавалі карандашамі."
Быкрыкі: "Няма там такога!"
Сяржук: "Ёсьць... Калі скласьці ўсе словы: у адным варыянце ёсьць Вара, у другім - Бора, у трэцім - карандашы..

Цяпер адносна Савелія Паўлава. Хто? Хто рэкамендаваў яго ў СП? Хто, нарэшце, прымаў яго ў саюз? Я патрабую публічна назваць імёны гэтых людзей. Я проста хачу паглядзець ім у вочы. Народ і СП павінны ведаць сваіх герояў.

Адносна "ўнутрысаюзных" адносінаў хочацца сказаць наступнае: давайце ня будзем вынаходзіць чарговы ровар, а павучымся ў невялічкага наваполацкага літаб'яднаньня "Крыніцы". Калі ваш прамоўца сеў разам з рабочымі на галадоўку каля Наваполацкага гаркама партыі, не ўсе сябры "Крыніцаў" падтрымлівалі самую ідэю галадоўкі, але калі яна стала рэальнасьцю, на плошчу, каб падтрымаць нас, прыйшлі Лявон Баршчэўскі, Якуб Лапатка, Навум Гальпяровіч, Міхась Барэйша. Ірына Жарнасек паіла нас гарачай вадой і мерзла разам з намі на плошчы. Вось і ўсё. Проста, па-чалавечы, па-людску.

Дык давайце ж і мы так разам з разуменьнем, па-людску, шануючы і паважаючы адзін другога, пойдзем з нашым народам да незалежнае Бацькаўшчыны.

Дзякую за увагу.

Жыве Беларусь!

---

## ЦЫТАТА

Ступень маральнае дэградацыі грамадзтва праяўляецца асабліва ярка ў тым, як паводзяць сябе яго лепшыя прадстаўнікі, яго паэты, пісьменьнікі, прарокі. Няма спрэчкі, і ў самым распусным асяродзьдзі былі, ёсьць і будуць праведнікі. Але да іх ліку не заўжды адносяцца тыя, хто ўслаўляе праведнікаў, бічуе заганы і выступае за чысьціню нораваў.

Марыя Шнеерсон "Кантынент" №62 1990г.

# ЛІСТЫ З АМЭРЫКІ



I.XI.88 г.

Даражэнькая,

даўно ўжо, яшчэ ў верасьні, атрымала ад Вас другі ліст, ішоў ён вельмі хутка, а доўга не адказвала таму,што чакала адбіткаў Вашых вершаў з цыклю "Эўфрасіньня Полацкая", якія мне абяцалі прыслаць з Ню-Ёрку, а тады рыхтаваліся да гэтак званае Сустрэчы Беларусаў, якія адбываюцца тут што пару гадоў. Сёлетняя, 18-ая, была, бадай што,найбольшая, прыехалі на яе людзі з усяе Амэрыкі, з Эўропы, нават з далёкай Аўстраліі. Супала наша сустрэча з тысячагодзьдзем хрысьціянства на Беларусі. У сувязі з гэтым беларусы Амэрыкі выдалі паштоўку Крыж Эўфрасіньні, якую пасылаю ў гэтым лісьце й Вам, а ну ж дойдзе. Гэта была б цудоўная ілюстрацыя да Вашага верша „Крыж."

У праграме сустрэчы было высьвячэньне з гэтае нагоды вялікага драўлянага крыжа ў Прошчы, якіх дзьвесьце кілямэтраў ад Таронта ў Канадзе. Тут некалі, яшчэ ў пачатку мінулага стагодзьдзя, мясцовыя індыяне замучылі і забілі двух францускіх манахаў-місіянераў,- Канада тады належала Францыі. З гадамі гэты прыгожы ўзгорак над лясамі й вазёрамі стаўся прошчаю, куды прыходзілі людзі з сваймі бедамі й просьбамі, маліліся. Ля падножжа ўзгорку вырас гарадок, у самой прошчы пабудаваная вялікая й вельмі прыгожая капліца. А тады эмігранты з усяго сьвету пачалі будаваць і стаўляць, у памяць сваіх пакінутых родных краінаў, на гэтым узгорку сваіх крыжоў і помнікаў.

Цяпер тут ёсьць сорак гэткіх памятак. Ня было толькі беларускае. І вот сёлета ўдалося сабраць грошы й паставіць на самым шчыце ўзгорку й беларускае памяткі, высокага крыжа, вельмі прыгожага, хоць простага, драўлянага. Выглядае ён цудоўна, а ўнізе - лясы й вазёры, куды не глянеш. Сустрэча трывала два дні, а на трэці паехалі ў Прошчу сьвяціць Крыж "за долю й шчасьце Беларусі." Наш крыж найвышэй на ўзгорку, бо пакуль што апошні, суседзямі нашымі, крыху ніжэй, Югаславы й Філіпінцы . Пасылаю Вам прысьвечаны гэтай урачыстасьці верш,які, як і Ваш, завецца„Крыж", укладаю яго ў гэты ліст, можа дойдзе.

Быў на сустрэчы Сакрат Яновіч з жонкай Таняй, з Беластоку, быў ён і ў Прошчы. Вельмі мне спадабаліся. Прыязджалі ў ЗША Оля Корбут з мужам, але ў Канадзе ня былі. Яны зьведалі ўсе нашы беларускія асяродкі. Данчык, унук мае найбліжэйшае сяброўкі Яні, якая жыве ў Ню-Ёрку, езьдзіў зь імі па ўсёй Амэрыцы, як перакладчык. А вось верш "Крыж":

# КРЫЖ

Як вокам скінуць - сьцяг пушчаў сініх...
За пушчай далеч яшчэ сіней...
А тут,на ўзвышшы, стаіць над імі
наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне.

Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,
шмат просьбаў, выклікачых бядой.
Прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць калені,
сьвянціць ня нейчы ўжо крыж, а свой.

"Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу",- маліўся хор,
а ўторыў натаўп, і сьпелай нівай
хінуўся, ветру наперакор.

А вецер дужаў, кудысь аблокі
зусім па-восеньску ўжо плылі.
Маўчала Прошча, ўнізе ж далёка
сінелі зарасьнікі й палі.

-Магутны Божа!- бяз слоў прасілі
мы ўсе, а рукі узьняўшы ўвыш,
стаяў нязрушна на ўзгорку схіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу, Крыж.

... Тут дождж імгненны каменьне спляміў,
рассыпаў кроплі ў траве, ў лісьці...
Няйнакш -
і Нехта дзесь там, над намі,
наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.

Калі гэты мой ліст атрымаеце, зараз адпішэце, хацелася б, каб Вы атрымалі паштоўку. А пакуль што, бывайце здаровы.

Вашая Н. А.

P. . Калі я друкавала на машынцы ліст ад спадарыні Натальлі, па тэлебачаньні Харавая капэла Ігара Мацюхова выконвала песьню на словы Натальлі Арсеньневай "Магутны Божа". Пасьля доўгага перапынку словы і ноты песьні былі зьмешчаны ў "Рэанімове"№1

# POEZIJOS PAVASARIS 90

Літва ў блакадзе, а паніка на Беларусі. У забруджанай краіне рэдка прыходзяць у галаву чыстыя думкі, як ў забруджанай кватэры, няма парадку, духовай гармоніі, няма даверу і веры — нікому, як і сабе самой. У Літве няма бензіну, не падаюць да кавы цукру, але ж можна езьдзіць цягніком ды тралейбусам, а каву яны і так п"юць бяз цукру. Там прадаюцца чыкуляды. Зрэшты, "вусаты барадаты навуковец падпісвае паперкі ды зрэдку выходзіць на пляцы, а жанчына з клункамі лётае па сусеках сьвету..."

25 мая ў Каўнасе традыцыйнае сьвята "Вясна паэзіі" У Даліне Песьні болей жанчын, дзеці апрануты ў народныя строі. Чарга толькі за кнігай з ідэнтычнай назвай "Вясна паэзіі". З крутой гары па ўсходках ішлі пад песьні фальклёрнай групы, але сьпявалі разам.

Лаўрэатцы вясны паэзіі 90 Гражыне Цешкайце ўсклалі на галаў вянок з дубовага гольля, павялі з паходняй паўз людзей, яна запаліла агмень сьвята. Чытала ні то сьпяваючы, ні то галосячы. Усіх шчыра слухалі. Мы з сябрам прамаўлялі на роднай мове бяз перакладу. Рэакцыя была беспамылковая —сьмяяліся там, дзе мы і разлічвалі. Адны мы і ўспомнілі пра сваіх"родных" Сакалова ды Сямёнава, як яны літоўцаў любяць, бо мы ж ня ўмеем быць прафесійнымі літаратарамі...

За дэбют у часопісе прэмію атрымаў Лудюс Дэмналенскас, гадоў яму каля 24. Чытаў ён традыцыйны рыфмаваны верш. У яго валасы вельмі доўгія, ён іх не пастрыгае...

Самае цудоўнае было ў заключэньні, калі на сцэну сыйшліся ўсе слухачы і сьпевакі. Усе ва ўсіх бралі аўтографы. Ручкі пазычалі, прыносілі другія, то натоўп утвараўся, то невялічкая перадышка. Сумовіліся. Паразмаўлялі. Адыходзілі ўсе разам.

Там паэзія патрэбна.

Там няма ніякіх чэргаў. Пашпартам зьяўляецца літоўская мова. Куплялі мы нейкую драбязу, ня ведаючы мовы.

Літоўскія дзяўчаты падобныя да Літвы, якая першай асьмелілася выйсьці з Савецкага Саюза. У іх сьмелая хада. Яны, як песьні. У бары, куды не заходзяць жанчыны, дзьве стройныя і прыгожыя дзяўчынкі падаюць залатое піва ачмурэлым палітыканам. І чыстая гэта праца.

# ДЫЕТА Сенсацыя

Наша дыета — цуд клінікі Майя. На працягу I4 дзён вы губляеце ад 7 да 8 кіль вагі, дыета рэгулюе абмен рэчываў. Пасьля яе гарантуецца ўстойлівы вынік на працягу трох гадоў, у гэтакі перыяд часу вага не павялічваецца.

I4 дзён нельга ўжываць алкаголь, цукар, хлеб, печыва, паміж ядой можна піць колькі хочаш мінеральнай вады ці вару. Нельга мяняць у дыеце чаргаваньне дзён.

Першы дзень: на сьнеданьне - шклянка чорнай кавы.
На палудзень - два звараныя яйкі, пучок шпінату(ці вараная морква)з алеем, адзін памідор(ці сок з памідораў)бяз солі.
На вячэру катлета зь ялавічыны ў алеі, салата з гародніны,таксама з алеем.

Другі дзень.Сьняданак - шклянка кавы, сухарык.
Палудзень - катлета зь ялавічыны, салата з гародніны.
Вячэра - дзьвесьці грамаў цяляціны(ці варанай кілбасы ці варанага мяса), кіслае малако.

Трэці дзень.Ранкам - шклянка кавы, сухар.
У палудзень - смажаныя ў алеі(ці звараныя) морква ці бурак, адзін памідор або сок з памідораў, адзін мандарын ці паўаранжыка (паўапельсіна), ці некалькі сьлівак і два звараныя яйкі.
На вячэру дзьвесьце грамаў зваранага мяса ці кілбасы ці вяндліны, салата.

Чацьвёрты дзень.На сьнеданьне кава. На палудзень - адно яйка зваранае, тры звараныя морквы з алеем,150гр. сыру. Вячэра - салата з гародніны.

Пяты дзень. Ранкам - цертая морква, апырсканая сокам зь лімону. Палудзень - паўкілі варанай ці тушанай у алеі рыбы, памідор ці сок з памідораў.
Увечары - катлета з цяляціны ці кілбаса, салата з гародніны.

Шосты дзень. На сьнеданьне - кава. У поўдзень - паўкілі курыцы, смажанай на алеі, салата з гародніны.
На вячэру - два вараныя яйкі.

Сёмы дзень. Ранкам - шклянка гарбаты, удзень - цяляціна на ражне, увечары - пакрышку, чаго захацелася.

З восьмага дня дыета паўтараецца.

ВЫДАЕ ДАНУТА З ГАРОДНІ · КАЛІНОЎСКАГА 7 кв 4
ТЭЛЕФОНЫ 44·01·27 , 45·22·54

 500 экз., цана 25 капеек